


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№1 ЛІПЕНЬ 2001 г.

## ВЕСТКІ

На працягу лютага-красавіка 2001 г. у памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея экспанавалася выстава новых паступленняў. Штогод музейныя фонды папаўняюцца прыблізна на 1 тыс. новых экспанатаў. Для выставы былі адабраны каля 200 найбольш цікавых набыткаў 2000 г. Тры асобныя вітрыны займалі экспанаты, падараваныя музею Мікалам Паўловічам. Мікола жыве ў Даўгаўпілсе, з'яляецца адным з актыўных дзеячоў беларускага таварыства, сур'ёзным калекцыянерам. Больш пяці гадоў Мікола супрацоўнічае з музеем, перадаў у фонды звыш 800 экспанатаў. У 2000 г. праходзіла асобная выстава прадметаў, падараваных М.Паўловічам музею. Сярод цікавейшых падарункаў М.Паўловіча – арыгінал зборніка вершаў А.Снудоўскага “Над возерам Дрывяты”, надрукаваны ў Браславе ў 1935 г., фотаздымкі Відзаў перыяду першай сусветнай вайны. М.Паўловіч – сябра Браслаўскага краязнаўчага таварыства, адзін з аўтараў выдання “Павет”.



Краязнаўцы Канстанцінскай базавай школы брали ўдзел у трэцяй рэспубліканскай навуковай канферэнцыі вучняў, прысвечанай пытанням экалогіі і біялогіі, якая адбылася ў Брэсце 21-22 лютага 2001 г. Праца краязнаўцаў з Браслаўшчыны адзначана спецыяльным прызам “за ўклад у ахову прыроды”.

На пятай рэспубліканскай канферэнцыі навуковых вучнёўскіх прац, якая прайшла ў Мінску, краязнаўцы Канстанцінскай школы былі адзначаны дыпломам 2-й ступені ў секцыі геалогіі і гісторыі Беларусі, краязнаўства.



21 мая ў Браславе адбыўся семінар-сустрэча прадстаўнікоў краязнаўчых арганізацый Віцебскай вобласці. Семінар праведзены Браслаўскім краязнаўчым таварыствам пры падтрымцы Віцебскага аддзялення фонда імя Л.Сапегі. Удзельнічала 25 чалавек. У Браслаў прыехалі госці з Віцебска, Полацка, Глыбокага, Лёзна, Шаркаўшчыны, Германавічаў, Паставаў, некаторых іншых мясцовасцей Віцебшчыны. Удзельнікі семінара пазнаёміліся з досведам працы БКТ, накірункамі дзейнасці таварыства, мелі магчымасць абмяняцца вопытам працы ў сваіх рэгіёнах. Была адзначана неабходнасць кансалідацыі краязнаўчых арганізацыяў вобласці і асобных краязнаўцаў, стварэння адзінага выдання краязнаўчай тэматыкі. Вырашана праводзіць такія сустрэчы раз на год. Удзельнікі семінара наведалі гарадзішча Замкавая Гара, экспазіцыі музейнага аб'яднання, здзейснілі краязнаўчую вандроўку ў былое мястэчка Слабодка.

## *Ад рэдакцыі.*

*З пачатку XV ст. да 1840 г. існаваў Браслаўскі павет – тэрытарыяльная адзінка ў складзе Віленскага ваяводства. Адміністрацыйным цэнтрам павета, за выключэннем непрацяглых перыядаў з'яўляўся Браслаў. Тут размяшчаліся ўстановы кіравання, суды, адбываліся соймікі – сходы мясцовай шляхты, якія ўдзельнічалі ў вырашэнні мясцовых праблем, далучаліся да ажыццяўлення агульнадзяржаўнай палітыкі. Браслаўскі павет і яго сталіцу мы знойдзем на картах Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Пячаткі павятовых устаноў упрыгожвала выява “Пагоні” – дзяржаўнага сімвала княства.*

*Тэрыторыя Браслаўскага павета была значна большай за сучасны раён. Частка ўвайшла ў склад Мёрскага, Шаркоўшчынскага раёнаў Беларусі, частка знаходзіцца ў складзе Літоўскай рэспублікі. Аднак пры правядзенні гістарычных і краязнаўчых даследванняў вельмі часта ў разлік бярэцца старая адміністрацыйная адзінка – павет, бо немагчыма разрываць стагоддзямі існаваўшыя сувязі паміж людзьмі, паселішчамі і г.д. “Павет” – такую назву атрымала выданне, якое на сваіх старонках будзе змяшчаць гістарычную і краязнаўчую інфармацыю пра Браслаўскі рэгіён.*

*Браслаўскі павет з'яўляецца надзвычай цікавым гістарычным рэгіёнам з багатай адметнай мінуўшчынай. Існуе вялікая колькасць выданняў, артыкулаў, даследванняў па гэтай тэматыцы. Вывучэнне гісторыі Браслаўскай зямлі працягваюць мясцовыя краязнаўцы, гісторыкі, архівісты, географы. З плёнам іх працы можна пазнаёміцца падчас рэгіянальных канферэнцый (Браслаўскія, Дзісенскія чытанні, чытанні, прысвечаныя гісторыку Я.Паўлаву), на старонках перыядычных выданняў. Добрай традыцыяй стала сяброўства і супрацоўніцтва паміж краязнаўцамі Браслаўскага, Шаркоўшчынскага і Мёрскага раёнаў. Новае выданне, спадзяемся, паспрыяе пашырэнню і паглыбленню гэтых сувязяў.*

*Рэдакцыя мяркуе змяшчаць у “Павеце” бягучую інфармацыю аб дзейнасці краязнаўцаў і краязнаўчых аб'яднанняў рэгіёна, звесткі пра новыя выданні, а таксама артыкулы па краязнаўству і гісторыі.*

*Вырым у тое, што выданне знойдзе свайго зацікаўленага чытача, знойдзе сяброў і прыхільнікаў, якія далучацца да нашай справы.*

# ВЕСТКІ

З 16 мая па 9 чэрвеня ў Злучаных Штатах Амерыкі знаходзіўся Віктар Бунта, кіраўнік краязнаўчага гуртка Кансталінскай школы і скаўцкага звязу "Сінія воды", сябра БКТ. Ён уваходзіў у склад дэлегацыі прадстаўнікоў грамадскіх арганізацыяў Віцебскай і Магілёўскай абласцей, якая знаёмілася з працай неўрадавых арганізацый штата Мінесота. Госці з Беларусі мелі магчымасць таксама наведаць сталіцу ЗША Вашынгтон.



У рамках традыцыйнага фестывалю "Браслаўскія зарніцы" спецыялісты музейнага аб'яднання і сябры студыі народных майстроў "Ля возера" арганізавалі экспазіцыю "Старажытныя рамёствы". На спецыяльна адведзенай і абсталяванай пляцоўцы дэманстраваліся даўнія спосабы і прыёмы апрацоўкі дрэва, гліны, лёну, пляцення, прадзення і г.д. Усе ўдзельнікі дзеі былі апрануты ў спецыяльна пашытыя для гэтага строі. Жаночыя строі аздаблялі ўпрыгажэнні выробленыя па археалагічных узорах XI-XIII стст. Экспазіцыя выклікала вялікую цікавасць гасцей свята, прысутных журналістаў. Мяркуецца, што ў верасні 2001 г. калектыў возьме ўдзел у Фэсце сярэднявечнай культуры ў г.Заслаўе пад Мінскам.



Летні сезон 2001 г. багаты на археалагічныя экспедыцыі. У чэрвені пад кіраўніцтвам супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі Сяргея Дзярновіча працавала экспедыцыя, якая працягвала даследаванні на ўнікальным гарадзішчы Маскавічы. На раскопе працавалі вучні мінскіх школ.

Экспедыцыя Белдзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам Аляксандра Егарэйчанкі даследвала шматслойнае гарадзішча Рацюнкі каля в.Літоўшчына, а таксама абследвала селішча, што знаходзіцца побач з гарадзішчам. Знойдзена багацейшая калекцыя прадметаў. Сярод іх вылучаюцца цудоўныя вырабы жалезнага веку з костак жывёлаў, упрыгажэнні XI-XIII стст. Адзін з унікальных экспанатаў – бронзавае пісала перыяду Полацкага княства. Знойдзена некалькі рэдкіх па выразнасці і захаванасці вогнішчаў. Удзельнікі экспедыцыі Віталь і Вольга Сідаровічы праводзілі даследванні іншых помнікаў наваколля. Побач з гарадзішчам на Слабодскай градзе знойдзена селішча.



Студэнты Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам Генадзя Семянчука праводзяць раскопкі на неўмацаваным паселішчы XI-XIII стст. на востраве Замак каля в.Дрысвяты і грунтовага могільніка гэтага ж перыяду ва ўрочышчы Пашавіцкі Рог. Знойдзена калекцыя ўпрыгажэнняў і прадметаў быту. Некалькі дзён у складзе экспедыцыі працавалі студэнты-этнолагі Кракаўскага ўніверсітэта. Яны цікавіліся фальклорам, звычаямі, абрадамі жыхароў Дрысвяцкага наваколля. У экспедыцыі Г.Семянчука працавалі не толькі студэнты ўніверсітэтаў, але і школьнікі з Браслава, Пагошчы, Відзаў.

У жніўні пачнецца праца аквалангістаў з Мінска пад кіраўніцтвам Сяргея Каблова. Аквалангісты правядуць разведку на шэрагу азёраў, дзе паводле інфармацыі ёсць цікавыя гістарычныя аб'екты.



У летнія месяцы ў гістарычным музеі працуе выстава "Паштоўкі са старога альбому". Выстаўлена звыш 200 паштовак канца XIX- пачатку XX ст. з калекцыі музея, якая ўвогуле налічвае звыш 1000 адзінак. Ёсць асобныя стэнды з паштоўкамі Браслаўшчыны, Вільні, гарадоў Еўропы, віншавальнымі, мастацкімі, жартаўлівымі.

*Браслаўшчына на паштоўках*

# ЦІКАВАЕ ЗНАЁМСТВА.

У мінулым, 2000 г., супрацоўнікі Даўгаўпілскага гарадскога музея пазнаёмілі мяне з Віктарам Калнішам, мясцовым беларусам з Краславы. Ён збіраў матэрыялы па гісторыі Краславы і Піедруі для магістэрскай работы. Знаёмства аказалася цікавым і ўзаемаўзбагачальным. Дзякуючы гэтаму былі знойдзены новыя матэрыялы па гісторыі Браслаўшчыны і беларусаў у Латвіі. Віктар знайшоў у Прэйдане (левабярэжны раён Краславы) зборнік вершаў А.Снудоўскага "Над возерам Дрывяты", надрукаваны ў Браславе ў 1935 г. і перадаў яго ў Браслаўскі краязнаўчы музей.



Калі я гасцяваў у В.Калніша, то пазнаёміўся з яго вялікай калекцыяй паштовак і фотаздымкаў Краславы і ракі Заходняй Дзвіны. Адразу звярнула на сябе ўвагу паштоўка з выявай велічнага храма. На жаль, на паштоўцы не было ніякіх звестак пра гэты будынак. Віктар ўпэўнена казаў, што паштоўка царскіх часінаў са здымкам касцёла бернардзінцаў ў Друі. Як доказ, ён падараваў мне сучасны здымак касцёла, выкананы з прыблізна таго ж месца з латвійскага берага Дзвіны. Падабенства амаль поўнае, будынак мала змяніўся за стагоддзе.



Так была знойдзена найстарэйшая паштоўка прысвечаная Браслаўшчыне. Трэба спадзявацца, што яна не апошняя.

***Мікола Паўловіч**, сябра беларускага таварыства ў г.Даўгаўпілсе, краязнаўца, калекцыянер.*

*Экспедыцыі, пошукі, цікавыя знаходкі*

## НЕЧАКАНАЯ ЗНАХОДКА.

Ва ўсходняй частцы Браслава, якая называецца Заборныя Гумны, пад час земляных прац быў знойдзены помнік Ю.Пілсудскаму. У 30-я гады ён быў устаноўлены ў цэнтры Браслава. Гэта бронзавая скульптура галавы кіраўніка польскай дзяржавы вагой каля 60 кілаграмаў. Захавалася некалькі фотаздымкаў па якіх бачна, што скульптура мацавалася на высокім гранітным пастаменце. Помнік знаходзіўся перад будынкам сойміка (сучасная музычная школа). Верагодней за ўсё скульптура была схавана кімсьці з жыхароў Браслава пры надыходзе Чырвонай Арміі.

Паводле ўспамінаў былога браслаўскага старосты З.Янушкевіча, скульптура была падаравана Браславу дэлегацыяй Цэнтральнага інстытута фізічнага выхавання ў Варшаве, які трымаў у горадзе два лагеры адпачынку. Гэта праца прафесара Карна.



Два манетныя скарбы знойдзены ў апошні час на Браслаўшчыне. 25 залатых манет Расіі XIX ст. знойдзены ў Відзах. Скарб перададзены дзяржаве. Пасля адпаведных ацэнак і экспертыз манеты верагодней за ўсё паступяць у Нацыянальны музей.

У ліпені ў музей паступілі звесткі аб 15 медных манетах, знойдзеных у Друі. Неўзабаве скарб апынуўся ў Латвіі. У музей перададзена адна манета – гэта 1 ор 1648 г., адчаканены ў Швецыі пры каралеве Хрысціне. Скарб верагодней за ўсё звязаны з прысутнасцю ў Друі шведскага гарнізона. У 1655 г. частка Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку і Браслаўскі павет, дабраахвотна далучылася да Швецыі, каб знайсці абарону ад расійскіх войскаў. У шэрагу мястэчак Браслаўшчыны тады ўтрымліваліся шведскія атрады. Абставіны знаходкі скарбу высвятляюцца.

Друя і Відзы з'яўляліся самымі значнымі паселішчамі Браслаўшчыны, буйнымі гандлёвымі цэнтрамі і трэба спадзявацца на новыя цікавыя знаходкі.

*Артыкулы*

## Апошняя з роду Замбжыцкіх

Няшмат засталося ў нас зараз людзей, хто змог бы давесці свой радавод да XV ст., а тым больш дакументальна яго пацвердзіць на працягу не сотні, а, напрыклад, паўтысячы гадоў. Сустрэча са Станіславай Замбжыцкай, якая зараз жыве ў Мёрах, пераканала ў гэтым. Сапраўды, такія людзі ёсць.

Выпіска з рэзалюцыі ад 24 студзеня 1834 г. з кніг Дэпутацыі шляхецкай Мінскай губерніі падцвярджае яе шляхецкае паходжанне з 1508 года. Такія дакументы сталі з'яўляцца на Беларусі пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Згодна ўказу Кацярыны II, шляхта ВКЛ павінна была дакументальна зацвердзіць сваё шляхецкае паходжанне. Канешне, расійскім уладам было нязручна трымаць пад сваёй рукой да 15 адсоткаў прывілігіраванага насельніцтва (у Расіі колькасць дваран складала толькі 1%). Таму і пачаўся так званы "разбор шляхты". Ён цягнуўся да 1917 г. Шмат хто, шукаючы дакументы, так і не змог даказаць сваё шляхецкае паходжанне, напрыклад, дзед славутага паэта Янкі Купалы. Продкам Станіславы Замбжыцкай пашчасціла гэта зрабіць за другім разам.

Першы раз, у 1802 г. ім не хапіла для доказаў некаторых дакументаў. Але ў тым жа годзе, удава Антона Замбжыцкага – Марыянна з роду Рыхлоўскіх, знайшла адпаведныя дакументы. Яна падала прашэнне аб пацвярджэнні шляхецкіх правоў на разгляд камісіі. Пагартаем старонкі гэтага дакумента.

З яго мы даведаемся, што Замбжыцкія паходзяць з роду герба "Касьцеша". Гэтым гербам карысталіся больш за 200 родаў на Беларусі, Украіне, Літве і Польшчы, у т.л. Дарагастайскія, Дольскія, Пілсудскія, на Браслаўшчыне – Жабы. Дакумент сцвярджае, што род Замбжыцкіх паходзіць з Польшчы. Петрыкаўскі трыбунал падцвердзіў у 1668 г., 1671 г. 16 пакаленняў гэтага роду, вядомага з 1508 г. у гэты час Піліп Замбжыцкі быў сакратаром у караля Яна Казіміра. Шляхецтва зацвярджаецца за ягоным сынам Янам і братамі Піліпа – Янам і Базылём. Гэтае паходжанне згадваецца ў найбольш поўным выданні радаводаў шляхты Рэчы Паспалітай "Геральдыцы" Нясецкага. У ёй гаворыцца: "*Піліп, сын Яхіма з зямлі лужыцкай і сыны яго прынялі ўдзел у бітвах крывавых, шматлікімі заслугамі для айчыны адзначаны. Сын яго Ян быў Інстыгатарам каронным назначаны сеймам 1676 г. камісарам на межах з Венгрыяй.*" Паходзячы з гэтай лініі, Стэфан Замбжыцкі быў намеснікам і рэгентам павятовага горада Браслава. Яго пячатка знаходзіцца на ардынансах гетмана ВКЛ Казіміра Сапегі. Ад Стэфана засталося двое сыноў, адзін з іх – Францішак, таксама быў браслаўскім намеснікам. Такім чынам, Замбжыцкія, трапіўшы на Браслаўшчыну ў XVII ст. з Польшчы, атрымалі за заслугі ў спадчыну маёнтак Баравыя. Сын Францішка Юзаф меў шэсць сыноў: Тадэвуша, Томаша, Канстанціна, Мікалая, Стэфана, Ігната. Пра іх ўзгадваецца ў справах Браслаўскага вознага суда 1757 г. У ёй разглядаецца крыўда, нанесеная Тадэвушу шляхціцамі Таўкачамі. У дэкрэце 1802 г. падцвярджаецца акт 1758 г. аб нападзе войска на маёнтак Замбжыцкіх у Браслаўскім павеце пад назвай Зарэчча і знішчэнне пад час гэтага шмат якіх дакументаў, якія падцвярджалі радавод Замбжыцкіх.




А зараз паслухаем аповяд самой Станіславы Замбжыцкай. Дзядулем яе быў Ян Замбжыцкі, які па

хрышчэнні атрымаў другое імя Павел. Менавіта ён атрымаў у спадчыну засценак Баравыя. Яго браты – Канстанцін (стаў настаўнікам) і Альбін (скончыў ваеннае вучылішча ў Пецярбургу) засталіся нежанатыя. Бацька Станіславы – Леанард, нарадзіўся ў 1871 г., памёр у 1935 г. Брат Леанарда Браніслаў быў у 1920 г. вывезены ўглыб Расіі бальшавікамі і прапаў без вестак. Яго дочкі ў час І сусветнай вайны выехалі ў Польшчу, дзе сталі манашкамі-місіянеркамі ў Ломжы. У Леанарда было тры дачкі: Сабіна (1908-1988), Станіслава (нар.у1913 г.) і Гунефа, якая памерла ў маленстве. Яшчэ адзін брат Леанарда валодаў зямлёй у в.Целяшы пад Друяй. Яго сыны Эдвард і Вітольд памерлі. З вялікага роду Замбжыцкіх на Браслаўшчыне у пачатку XX ст жылі яшчэ родзічы ў вёсках Густаты, Ялавічы,каля Падзяваў, ля Ёдаў, дзе жыў раней Ян Замбжыцкі. На жаль, акрамя Станіславы, на пачатку XXI ст. у нашых мясцінах нікога не засталося.

Далёка не шляхецкае жыццё выпала на долю Станіславы. Калі ёй было 12 год, памерла маці, бацька часта хварэў і неўзабаве таксама памёр. Зямлі было мала, 25 дзесяцін было падзелена паміж братамі. Хата ў засценку Баравыя была пабудавана ў 50-х гг. XIX ст. калі яе разбіралі ў 1990 г., то пад апошнім бервяном знайшлі медную манету расійскай чэканкі – 5 капеек 1841 г. Вучылася Станіслава мала, некалькі год пахадзіла ў польскую школу ў Лінкаўшчыне. Аднак якія мела здольнасці, дзівосны каліграфічны почырк! Нават зараз праз амаль 80 год Станіслава можа на памяць расказаць па-польску вершы. Калі ўдавалася, то яна шмат чытала. У яе захоўваліся кнігі па гісторыі, мастацкая літаратура. Яшчэ і зараз яна выпісвае і чытае газету "Голас з-над Нёмана" на польскай мове, а таксама каталіцкія газеты, якія дасылаюць з Польшчы сёстры-законніцы. Усё жыццё прыходзілася працаваць, рабіць мужчынскую працу – касіць, араць, нарыхтоўваць дровы. Асабліва страшна было ў час апошняй вайны. Засценак Баравыя быў размешчаны ў лесе, і таму ноччу да іх наведваліся партызаны, застаўлялі маладых жанчын "ехаць у падводы". Удзень прыходзілі немцы і вялі допыт пра партызан. Але не меншы жах пачаўся пасля вайны. Улада спрабавала іх вывезці, таму Станіславе прыйшлося хавацца ў сваякоў, ды й чужыя людзі давалі прытулак. З цягам часу Станіслава стала наймацца працаваць нянькай да савецкіх чыноўнікаў ў Мёрах, а пасля стала ўладкавалася санітаркай у Мёрскую бальніцу, дзе і адпрацавала да старасці. Сястра Сабіна ўвесь час аджыла ў Баравых. Усе продкі з засценка пахаваныя на могілках у Фядосаўшчыне. Там пахаваныя бацькі, сястра, там пахаваюць і мяне. І тады мы, Замбжыцкія, канчаткова знікнем на гэтай зямлі, з якой наш род быў звязаны трыста год. Так скончыла свой аповяд Станіслава Замбжыцкая.

***Вітаўт Ермалёнак,*** *настаўнік СШ№3 г.Мёры, кіраўнік гуртка "Арганаўты мінулага".*

---

## РАЁННАЯ ГАЗЕТА «БРАСЛАЎСКАЯ ЗВЯЗДА». 1939 год. ПЕРЫЯД СТАНАЎЛЕННЯ.

Пасля аб'яднання Усходняй і Заходняй Беларусі у верасні 1939 года адначасова са шматлікімі пераўтварэннямі ў створаным Браслаўскім павеце (пазней раёне) з'явілася сваё перыядычнае выданне — газета «Звязда». «Браслаўскай» яна стала крыху пазней. Газета з'яўлялася органам Браслаўскага павятовага камітэта кампартыі і павінна была адыгрываць ролю ідэалагічнага фарпоста савецкай улады на захадзе Беларусі. Першы нумар газеты, як мы можам даведацца са старонкі сучаснай «Браслаўскай звязды», выйшаў 1 кастрычніка 1939 года.

Вывучаючы гісторыю газеты, сённяшняму пакаленню, безумоўна, цікава зазірнуць у першыя гады існавання выдання. На жаль, на месцы гэта зрабіць даволі цяжка. Найбольш поўны перадваенны камплект «Звязды» ўдалося адшукаць у Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы, у газетным аддзеле падмаскоўнага горада Хімкі. Бібліятэка мае падшыўкі за 1939-1941 г.г. і 1945-1962 г.г. Шкада толькі, што падшыўка за 1939 год пачынаецца з № 5.

Пагартаўшы старонкі перадваеннай газеты і прааналізаваўшы тэхнічныя даныя, можна зрабіць выснову, што рэдакцыя і друкарня знаходзіліся хутчэй за ўсё ў будынку сучаснага краязнаўчага музея па тагачаснай вул.3 Мая. Да канца 1939 года выйшла 37 нумароў газеты. Першым яе рэдактарам быў А.Ц.Васілеўскі. Дарэчы, больш падрабязнай інфармацыі аб асобе рэдактара пакуль няма. Невядома, ці гэта быў мясцовы жыхар, што малаверагодна, ці прыезджы. Спачатку газета друкавалася на дзвюх старонках невялікага памеру, а з № 8 стала большай па фармату.

Што пісала «Звязда» ў 1939 годзе? Так, № 5 ад 12 кастрычніка амаль цалкам прысвечаны падзеям уз'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі. На першай старонцы змешчаны Зварот рабочых і інтэлігенцыі горада Беластока, на другой—інфармацыя аб маючых адбыцца выбарах у Народны Сход. Увогуле, першыя нумары выдання не ўтрымлівалі ніякай мясцовай інфармацыі.Тым не менш, дзякуючы «Звяздзе», мы змаглі даведацца аб усіх дэлегатах з Браслаўшчыны на Народны Сход у Беластоку. Да гэтай пары мы больш-менш падрабязна ведалі аб двух—Пальчэўскай і Манцэвічу.

Напэўна, варта пералічыць асноўныя тэмы матэрыялаў газеты за 1939-1941 гады. На яе старонках часта з'яўляліся тэлеграмы, лісты, віншаванні ад працоўных Браслаўшчыны Ураду і самому Сталіну. Амаль паўгода ішлі матэрыялы аб стварэнні гурткоў па вывучэнню сталінскай Канстытуцыі. Як даволі цікавую, можна адзначыць інфармацыю аб перайменаванні вуліц Браслава. Гэта адбылося ўжо ў снежні 1939 года, прычым асноўныя з іх носяць тыя назвы да гэтага часу (напрыклад, Савецкая). Частымі, асабліва ў 1940 г., былі паведамленні аб школах, іх колькасці. Да прыкладу, у 1940-1941 навучальным годзе ў раёне працавала 81 школа, з іх 54—беларускіх, 26—рускіх і 1—яўрэйская. Цікавыя звесткі аб установах культуры: перад вайной дзейнічалі 13 хат-чытальняў, дом сацыялістычнай культуры, раённая бібліятэка (фонд складаў 6311 кніг) і дзве сельскія—Ахрэмаўская і Літоўшчынская. Да вайны на Браслаўшчыне было ўтворана каля 10 калгасаў. Першым быў калгас імя Сталіна ў Завер'і.

Вось яшчэ некалькі цікавых фактаў: будучы бургамістр часоў акупацыі 1941-1944 гадоў С.І.Кавальскі да вайны працаваў ветэрынарным урачом. Старшыню Мяжанскага сельсавета Фёдарава за тое, што ён недапрацаваў 30 хвілін, адправілі на 6 месяцаў папраўчых работ. А ў № 38 газеты за 1941 г. ёсць паведамленне аб абавязковай рэгістрацыі веласіпедаў. Дарэчы, у экспазіцыі нашага музея ёсць такі экспанат – нумар ад веласіпеда перадваенных часоў. За яго трэба было заплаціць 2 рублі і яшчэ падатак 3-10 рублёў, а таксама праставіць нумар рамы і назву фірмы вытворцы гэтага транспартнага сродку.

Чытачы сённяшняй «раёнкі» прызвычаіліся да табліц-зводак вынікаў правядзення сельгасработ. А першыя падобныя зводкі з'явіліся ў «Звяздзе» вясной 1941 года і выглядалі падобна да сучасных.Ці вось такі факт. Цяпер дакладна вядома, што ў 20-30-я гады ў Браславе існаваў планерны клуб. З прыходам савецкай улады ён перастаў дзейнічаць, але база засталася. І вось вясной 1941 года яго зноў адкрылі, аб чым і паведамляла газета.

Бадай самая важкая інфармацыя ўтрымліваецца ў № 46 за 1940 год. Яна называецца «Першая рэвалюцыйная газета ў Браславе». У артыкуле паведамляецца аб тым, што ў 1919 годзе, 19 студзеня, выйшаў першы нумар газеты «Браслаўская камуна». Відавочна, што гэты друкаваны орган належыў Браслаўскаму рэвалюцыйнаму камітэту. Аднак аўтары не даюць больш ніякіх звестак: колькі праіснавала газета, колькі выйшла нумароў, які мела знешні выгляд, наклад, дзе друкавалася? Аналізуючы гэту інфармацыю, можна зрабіць выснову: калі палічыць сучасную «Браслаўскую звязду» пераемніцай друкаванага органа ўлады часоў ВРК 1919 года, то вынікае, што першае перыядычнае па сваёй

сутнасці выданне з'явілася ў Браславе напачатку стагоддзя ў вельмі няпростыя для Беларусі часіны. Канешне, хацелася б пабачыць «Браслаўскую камуну», хаця гэта малаверагодна.

Напрыканцы трэба прывесці некаторыя статыстычныя выкладкі, якія можна "пачэрпнуць" у газеце. Наклад «Звязды» у 1939 годзе быў спачатку некалькі соцен і дасягнуў дзвюх тысяч. У 1940-ым годзе выйшла 127 нумароў ( наклад ад 2000 да 2500 экземпляраў). У 1941 годзе да пачатку вайны выйшла 69 нумароў газеты. Пастаянным рэдактарам, акрамя А.Ц.Васілеўскага, была Хая Навумаўна Мерхасіна. Яна ўзначаліла газету ў ліпені 1940 года. Першы нумар, які яна падпісала,— 68 за 21 ліпеня. Хутчэй за ўсё ў часы вайны яна была ў эвакуацыі, а пасля вярнулася ў Браслаў і з канца 1944 года зноў узначаліла газету. У 1940 годзе некалькі разоў рэдагавалі газету А.І.Карпяленя, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі райкама, П.І.Тамковіч, загадчык аддзела народнай асветы. Доўгі час на пасадзе намесніка адказнага рэдактара працаваў Н.П.Закалінскі. Адразу ж пасля аднаўлення працы «Звязды» ў ліпені 1944 года рэдагаваў газету А.Ф.Гурчонак. На жаль, аддзел перыёдыкі Расійскай бібліятэкі не мае ніводнага нумара за 1944 год.

Безумоўна, патрэбны далейшыя пошукі звестак, каб больш-менш поўна скласці гісторыю выдання газеты «Браслаўская звязда». Напрошваецца падзяленне гісторыі газеты на перыяды—даваенны, пасляваенны, перыяду 60-80-х гадоў, часоў перабудовы і г.д. Аднак зразумела, што для далейшага вывучэння яе гісторыі патрэбны і час, і шмат намаганняў.

Зусім нядаўна ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы было выяўлена яшчэ адно выданне – "Браслаўская насценная газета", якую выдавала восенню 1920 г. ваенная камендатура Беларускага батальёну (F-21-2285). Напэўна з-за таго, што Беларуская рота ў складзе літоўскіх войскаў, якой камандаваў маёр Аляксандр Ружанцоў, прастаяла ў Браславе нядоўга, выпушчана толькі тры нумары насценнай газеты.

Па фармату – гэта звычайны лісток памерамі прыблізна 30 х20 сантыметраў. №2 выйшаў на двух аркушах, а трэці нумар быў напісаны на аркушы ў лінейку. У №1 ад 4 верасня размешчана адозва рэдакцыі: "*В наш Браслав редко попада-ют газеты. Идя на-встречу местным пожеланиям и желая положить предел всяким слухам, мы будем издавать свою газету надеясь на помощь и сотрудничество местных общественных организаций и деятелей…*"Змяшчала насценная рукапісная газета матэрыялы аб падзеях на фронце, мясцовыя навіны пад рубрыкай "Браслаўскае жыццё". Паказальны матэрыял, у


Majoras RUŽANCOVAS.
БРАСЛАВСКАЯ СТЕННАЯ ГАЗЕТА.
№3 издаваемая Браславской Бело-русской Комендантурой. 13 сент. 1920 г.

…фициальное сообщение Литовск. Генер. Штаба. От 6. IX. 1920 г.
…лучив подкрепления, …ки укрепились на линии … Сайно, Белое, Плиеа, Ви… …парты. В отдельных пунк… …поляки при поддержке …иллерии, пытались аттако…ть, но были отбиты всю… Более значительныя …закновения имели место …районе озер Тартаки и …йны.
…лковник Ген. Шт. Клещинский

…з телеграмм „Эльты".
…Тильзита для Литовских …елезных дорог перевозит… 12,000 тонн угля, его хва…т на полгода.
…Таурогене открывается …брика целлулоида. Во главе …стоит Виленский фаб…икант Левин.
…га.— Чичерин выразил …ое согласие на перене…ние русско-польских пе…говоров в Ригу.
…Русское наступление. …нгсберг. Делавам газет …етские войска получили …вые значительные подкреп…ния и начали наступление. …ого войск было направле… в район Сувалки–Августо… …Корпус центр-наступае… …Красной армии начато …линии Гродно–Августо… …Согласно радио из Лон…она польское наступле…ие уже приостановлено.

…естная хроника.
…нт. в нашем уездном …тре Ежеренах был уезд…ый сеймик и учитель…кий съезд, на которые бы… …представители и от Бра…вской волости.

8 сентября организована пожарная Браславская дружина. В правление ея избраны А. Ружанцов (майор), Мишгольт (нач. милиции), Ш. Рабинович, Б. Хормац, С. Гелишковский, А. Эйдельсон, Л. Вайнштейн, а кандидатами к ним В. Фишер, З. Ульман и К. Мунис. Почетными членами избраны министры еврейских дел М. Соловейчик и белорусских дел Д. Семашко. После праздников дружина приступит к энергичной работе по приведению в порядок инвентаря, обучению охотников и изысканию средств для дружины.

Назначенный начальником Браславского участка Ежеренской уездной милиции Мишгольт прибыл в Браслав и вступил в исполнение своих обязанностей.

В Браславской Комендантуре поднят вопрос об устройстве в ближайшее время „дня борьбы с грязью", в котором бы приняли участие все граждане и воины гарнизона.

Нас просят напечатать: Местным властям.
За предоставленный рояль местными властями нач. гарн. майором Ружанцовым и комендантом капитаном Благовещенским Браславское культурно-драматическое общество шлет свою искреннюю благодарность.
Председатель Пелишковский.

Абвестка.
Газэта „Пагоня" рассылаецца:
Браслаўскай вол. – 20 экз.,
Плюсскай вол. – 20 экз.,
Друйсвятскай вол. – 20 экз.,
Каапэрацыі у Браславі – 25 экз.
Жаўнерам-Беларусам – 50 экз.
Рэшту магчымо атрымаць у камэндантуре. К-па-Б.А.Р.
Редактор-издатель { Брасл. Белорус. Ком-ра.

якім новастворанае Браслаўскае культурна-драматычнае таварыства дзякуе мясцовай ўладзе, а дакладна начальніку гарнізона маёру Ружанцову і каменданту капітану Благавешчанскаму за падараваны раяль. Цікава чытаюцца паведамленні аб арганізацыі пажарнай дружыны, аб прызначэнні "дня борьбы с грязью". Увогуле, нават тры нумары даюць так шмат інфармацыі аб падзеях восені 1920 г. у Браславе, што безумоўна з'яўляецца карыснай знаходкай і ў дадатак адкрывае яшчэ адну старонку гісторыі перыядычнага друку на Браслаўшчыне.

***Аляксандр Панцялейка**, супрацоўнік Браслаўскага краязнаўчага музея*

---

*Славутыя землякі*

# АЛЬТЭР ДРУЯНАЎ.

*Імя яўрэйскага літаратара, фальклярыста, гісторыка Альтэра Друянава (1870-1938), які нарадзіўся ў Друі, да гэтага года не было вядома краязнаўцам Браслаўшчыны. Аб ім адсутнічаюць звесткі нават у грунтоўнай кнізе «Памяць».*

*Дзякуючы клопатам яўрэйскай грамады Беларусі і замежжа сітуацыя змянілася. Жыхары Браслаўшчыны змаглі пазнаёміцца з матэрыяламі пра А.Друянава ў газеце «Браслаўская звязда». У Друі, вуліца, дзе ён нарадзіўся, атрымала імя знакамітага земляка. Урачыстасці з гэтай нагоды адбыліся 15 чэрвеня 2001 г.*

Кожны год адкрываюцца новыя факты, падзеі, жыццяпіс славутых людзей звязаных з мінуўшчынай нашага краю. Так, нядаўна стала вядома аб Альтэры Друянаве – вядомым літаратары, фальклярысту і гісторыку, грамадскім дзеячы. Ён нарадзіўся ў 1870 г. у Друі ў яўрэйскай сям'і. Дзяцінства яго прайшло ў Друі. Дакладна вядома, што ён ўжо з маленства праяўляў пэўныя здольнасці да навукі. Адукацыю А.Друянаў атрымаў ў знакамітай Валожынскай іешыве (рэлігійнай школе), а потым у Вроцлаўскім універсітэце. З 1890 г. будучы пісьменнік жыў у Адэсе, выязджаў за мяжу. З 1909 па 1914 гг. ён рэдагаваў часопіс "Ха-алам" у Вільні, пісаў публіцыстычныя творы пра пісьменнікаў. Вядома, што яго пяру належыць праца аб Льву Талстым. У наступны перыяд творчасці Альтэр Друянаў сур'ёзна займаецца вывучэннем народнага гумару. Шмат гадоў ён збіраў з розных крыніц сатырычныя і гумарыстычныя гісторыі з жыцця яўрэяў, анекдоты. Гэтая спадчына пасля выйшла у трох тамах пад назвай "Сефер-ха-бдіха зе-ха-хідуд"на мове ідзіш.

У 1921 г. А.Друянаў разам з сям'ёй пераехаў на сталае жыхарства ў Тэль-Авів. Аднак гэта яму не перашкаджала наведваць радзіму, сваіх блізкіх родзічаў. Памёр А.Друянаў у 1938 г. Ужо пасля смерці пабачыў свет двухтомнік яго публіцыстычных твораў. Некаторыя яго творы зараз вывучаюцца ў ізраільскіх універсітэтах. Яго імем названа вуліца ў Тэль-Авіве, а зусім нядаўна з'явілася вуліца Альтэра Друянава і ў Друі – радзіме нашага славутага земляка.

В Виленской губернии, в городе Друя
Сто тридцать лет тому назад
В семье еврейской: молодой, счастливой
Малыш родился, сердцу милый,
Чтоб род еврейский прославлять.

Мальчишкой умным и смышленным
Он с детства был не по годам
На нашей улице мощеной
Играл на зависть здешних мам.

Алтер Друянов – это имя
Тогда еще не ведал мир,
Но годы мчались незаметно,
И он народы покорил.

Писатель, критик и ученый,
Еще, к тому же, юморист,
Известный в мире литератор,
Историк, также фольклорист.

Его тянуло с детства к знаньям,
И он объездил целый мир.
От Беларуси до Израиля
Народу славу он дарил.

Увековечить его имя
Решили дружно земляки.
Друянов улицу назвали
На самом берегу реки.

Пускай и в Друе о нем память
Не иссякает, не умрет.
И в вечной памяти народов
Тысячелетия живет.

***А.В.Гайдзель**, жыхарка Друі*

# Мёршчына ва ўспамінах Зеліслава Янушкевіча.

Зеліслаў Янушкевіч з'яўляўся старостам Браслаўскага павета Віленскага ваяводства ў 1923 – 1933 гг., пасля чаго займаў аналагічную пасаду ў Бельск-Падляскім павеце Беластоцкага ваяводства. Мяркуючы па ўсяму, быў талентавітым арганізатарам, дбайным гаспадаром, добрым кіраўнікам. У пасляваенны час З. Янушкевіч напісаў успаміны аб сваёй працы на пасадах старосты. Арыгінал успамінаў захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве (акс. 11189, т. 1, 2). У той частцы ўспамінаў, якая прысвечана працы ў Браслаўскім павеце, аўтар дае разгор-нутую карціну развіцця гаспадаркі краю, грамадскіх адносін, галоўных накірункаў дзейнасці мясцовых улад. Успаміны ўтрымліваюць шмат цікавых сведчанняў, канкрэтных эпізодаў тагачаснага жыцця. Варшаўскім зямляцтвам выхадцам з Браслаўшчыны ўспаміны Зеліслава Янушкевіча выдадзены асобнай кнігай невялікім накладам. Машынапісны варыянт рукапісу захоўваецца ў Браслаўскім музейным аб'яднанні.

Неабходна сказаць, што пасля ўваходжання Віленшчыны ў склад Польскай дзяржавы, тэрыторыя сучаснага Мёрскага раёна адносілася да Дзісенскага павета. Са студзеня 1926 г. восем гмінаў, а менавіта: Богінская, Друйская, Чарэская, Ёдская, Лявопальская, Мёрская, Новапагосцкая і Перабродская – былі ўключаны ў склад Браслаўскага павета (1 студзеня 1927 г. Чарэская гміна скасавана). Такім чынам, у склад Браслаўскага павета з 1926 г. уваходзіла значная частка сучаснага Мёрскага раёна.

Для тых, хто даследуе мінулае Мёршчыны, успаміны Зеліслава Янушкевіча будуць карыснымі як у цэлым, так і канкрэтнымі эпізодамі, звязанымі з тэрыторыяй раёна. Згадаем некаторыя з іх.

У раздзеле, прысвечаным будаўніцтву дарог, знаходзім апісанне будаўніцтва грэблі паміж азёрамі ў Мёрах, непадалёку ад касцёла. Грэбля дазволіла б значна палепшыць сувязі мястэчка з наваколлем. Заміналі пачатку будаўніцтва вялізныя аб'ёмы прац. Падлічылі, што на гэтыя мэты давялося б скарыстаць прыблізна трохгадовы ліміт шарварку дзвюх гмінаў. Прычым ад будаўніцтва і рамонту іншых дарог трэба было б адмовіцца. Кіраўніцтва гміны вырашыла зрабіць стаўку на добраахвотны ўдзел усіх жадаючых у будоўлі. Абвясцілі так званы "ганаровы шарварак", прозвішчы тых, хто працаваў добраахвотна на тры дні вывешвалі на стэндзе каля гміннай управы. Апрача гэтага павятовы інжынер спраектаваў некалькі спецыяльных дарог ад пагорка, з якога браўся грунт і ваганеткі для перавозкі матэрыялу. Раней не бачаныя сродкі механізацыі выклікалі вялікую цікавасць, асабліва ў моладзі. Давялося нават устрайваць чаргу працаваць з ваганеткамі. Працы па адсыпцы грэблі пачаліся летняй парой, а ўжо ўвосені паміж азёрамі можна было праехаць на фурманцы. Завяршылі будаўніцтва грэблі ў наступным годзе, калі канчаткова насыпалі палатно дарогі, умацавалі берагі камянямі і зрабілі мост праз пратоку паміж азёрамі.

Мёрская будоўля дала пачатак выкарыстання "ганаровага шарварку" і на іншых аб'ектах павета, якія мелі важнае значэнне для ўсяго насельніцтва.Увогуле, аўтар успамінаў неаднойчы падкрэсліваў дрэнны стан дарог на тэрыторыі павета, асабліва ва ўсходняй частцы. У занядбаным стане знаходзіліся інжынерныя збудаванні на дарогах, у прыватнасці масты. З. Янушкевіч згадвае, як легкавы аўтамабіль старостава, у якім ён ехаў, стаў прычынай разбурэння маста ў Нова-Пагосцкай гміне. Толькі цудам аўтамабіль і пасажыры не пацярпелі.

Цікавыя сведчанні аб паводцы вясной 1931 г. на Заходняй Дзвіне і яе прытоках – Друйцы, Вяце, Мерыцы і інш. Пад'ём вады быў надзвычай высокі і прынёс навакольным тэрыторыям шмат шкоды.

У раздзеле аб прамысловасці павета ёсць звесткі пра Мёрскую запалкавую фабрыку – невялікае прадпрыемства, якое дзейнічала напаўлегальна, бо Польшча мела пагадненне са Швецыяй аб манаполіі гэтай краіны ў вытворчасці запалак. Апрача запалак прадпрыемства выраблялa з асабліва мелкаслойнай асіны саломку, з якой плялі дарагія жаночыя капялюшы. Гэтая саломка экспартавалася ў Францыю.

Расказвае мемуарыст аб візіце ў Браслаўскі павет тагачаснага прэзідэнта Рэчы Паспалітай, выдатнага дзяржаўнага дзеяча, вучонага Ігнацыя Масьціцкага. Згаданы некаторыя абставіны прабывання прэзідэнта ў Новым Пагосце і Пераброддзі.



Брыгада тэлефаністаў у м.Лявонпаль. Мёршчына. 20–30 гг. Фота з калекцыі Браслаўскага музейнага аб"яднання

Даволі падрабязна піша Зеліслаў Янушкевіч пра вядомую на Мёршчыне постаць – ксяндза Бародзіча. Пакінуў гэты чалавек даволі неадназначную памяць, быў дзеячом энергічным, апантаным, аднак сваю дзейнасць часта скіроўваў у бок авантур. Былы староста называе Бародзіча "знакамітым на ўсю Віленшчыну баламутам і падманшчыкам, які шмат цудаў расказваў пра сваю місіянерскую дзейнасць, а па сутнасці рабіў толькі шмат крыку і глупстваў, часам вельмі шкодных..." Калі былі зняты ўсе абмежаванні, якія існавалі ў Расійскай імперыі, на ўзвядзенне касцёлаў, ксёндз Бародзіч загадаў будаваць шматлікія касцялкі на тэрыторыі сваёй парафіі. Збудаванні нагадвалі невялічкія хаткі з вежачкамі. Адзін з такіх касцялкоў быў разбураны моцным ветрам. А ў афіцыйных справаздачах Бародзіч пісаў пра адкрыццё сапраўдных храмаў. Перад тым як апынуцца на Мёршчыне, Бародзіч "праславіўся" у іншых краях. Сярод яго афёраў: кандрабанда каштоўнымі камянямі ў Швейцарыі, злоўжыванні пры будаўніцтве храма і плябаніі ў Сан-Рэма, у Італіі. Ва ўспамінах ёсць падрабязнасці аб будаўніцтве Бародзічам касцёла ў Мёрах, аб шэрагу скандальных учынкаў і здарэнняў, звязаных з імем ксяндза, абставінах яго выезду з Мёршчыны.

Карысным будуць даследчыку звесткі аб мясцовых дзеячах, якія прыводзіць мемуарыст, інфармацыя пра маёнткі і іх уладальнікаў, змешчаныя ў канцы ўспамінаў.

***Кастусь Шыдлоўскі***, *навуковы супрацоўнік Браслаўскага краязнаўчага музея*

*Выдавецкія навіны*

## ЛЕГЕНДАРНАМУ ЛЕКАРУ БРАСЛАЎШЧЫНЫ




У пачатку бягучага года пабачыў свет 4 выпуск гістарычнага зборніка "Браслаўскія сшыткі". Выданне падрыхтавана супрацоўнікамі музея і Браслаўскага краязнаўчага таварыства і прысвечана таленавітаму лекару Станіславу Нарбуту (1853-1926). С.Нарбут – адна з самых яскравых постацей гісторыі Браслаўшчыны. У памяці нашчадкаў ён застаўся як самаадданы, ахвярны лекар, вялікі гуманіст, актыўны грамадскі дзеяч, любіцель жартаў і кпінаў. Выданне мае 132 старонкі часопіснага фармату. Утрымліваюцца падрабязныя звесткі аб знакамітым шляхетскім родзе Нарбутаў, вучобе С.Нарбута, яго працы на Браслаўшчыне, грамадскай дзейнасці, сямейным жыцці. Друкуецца шмат дакументаў, у асноўным упершыню. Выданне багата ілюстравана. Матэрыялы для выпуска збіраліся ў архівах і бібліятэкахі Беларусі, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільні, Каўнаса, Варшавы.

У якасці падарунка частку накладу "Браслаўскіх сшыткаў" атрымалі бібліятэкі і школы Браслаўшчыны.

У маленстве жыццё апаліла
Злым агнём пакручасты твой лёс:
Брата смерць маці магіла,
Да якой конік бацьку прывёз.

Сіратою сталеў на чужыне,
Да чужога туліўся пляча,
Сumаваў па далёкай Айчыне
Пад зняверany крык крумкача.

Гімназістам віленскім, а потым
Ты студэнтам у Мюнхене быў,
Сваім розумам, працай і потам
Медыцынскія веды здабыў.

Мог і там назаўсёды застацца,
Жыць заможна, кар'еру зрабіць,
Толькі ж сэрца – найлепшы дарадца
Не схацела Радзіму забыць.

Сумавалі па працы далоні,
Цвіў, як ружа, хвалюючы май,
Ногі ў рукі – і, хуткія коні
Паімчалі ў браслаўскі край.

– Дзякуй лекару, Нарбуту дзякуй! –
Пагалоска навокал пайшла:
– Ад хваробы ніякага знаку,
– І не сквапны ні злая

– Гэта праўда, паверце, не казкі:
– Нарбут можа і словам лячыць
– Ён з'явіўся ў нас з Божай ласкі,
– Уратаваных ужо не злічыць!

Сапраўды шмат было ўратаваных,
Нрадзіўшыхся двойчы на свет,
Так загойваў глыбокія раны,
Што ад іх не было і прыкмет.

Стаў асобай ва ўсім легендарнай
Весяльчак, жартаўнік, аптыміст,
Завадатар у справе пажарнай
І цудоўны аматар-артыст.

Падрасталі і ўласныя дзеткі,
Віўся ў згодзе сямейны вянок:
Тры дзяўчынкі, тры белыя кветкі
І разумны, у бацьку сынок.

Нацярпеўся, ізноў усміхаецца,
У вайну, у крывавы раздор
Атрымаў франтавое калецтва
Ледзьве сам ад пакут не памёр.

Ачуняў – і адразу за справу,
Як дагэтуль лячыў ад душы
Йшлі нямоглыя з ім на паправу
Працаваў, нібы подзвіг вяршыў.

Адслужыў, адгарэў у 26-м
Ратаваў пацыента, а сам
Заплаціў за яго пэўным коштам ..!
Не было меры жонкі слязам.

Твая зорка высокая згасла
У сакавіцкай смузе да пары
Тазвітаўся з табой цэлы Браслаў
На высокай пясчанай гары.

І з'явіўся затым над магілай
Помнік велічны, ледзь не да хмар.
Свеціць ноччу з нябачнаю сілай
На вяршыні магутны ліхтар!

Змог ты памяць у сэрцах пакінуць
Аб ахвярным, прыгожым жыцці
Не дадзім гэтай памяці згінуць
У скалелым людскім забыцці.

**Уладзімір Руль**, краязнаўца,
в.Нача Воранаўскага р-на
Гродзенскай вобласці

Напрыканцы 2000 г. у выдавецтве "Древлеправославие. Слово и книга" у Вільнюсе выйшла кніга Веніяміна Міхайлава "Видзы и Видзовщина. Очерки и документы. История, культура, жизнестроение, цивилизация, экономика". (160 с., наклад 100 асобнікаў). Аўтар выдання, доктар гуманітарных




навук, жыве ў сталіцы Літвы, але паходзіць з Відзскага наваколля, з'яўляецца гадаванцам Відзскай сярэдняй школы. Менавіта таму ў кнізе шмат цеплыні і замілавання да родных мясцін. Тым не менш, выданне пакідае супярэчлівыя пачуцці.

Відзы – адзін з цікавейшых населеных пунктаў Браслаўшчыны. Гісторыя колішняга мястэчка і горада вельмі насычаная, багатая і складаная. Матэрыялы да мінуўшчыны Відз зберагаюцца ў дзесятках архіўных цэнтраў, раскіданыя па сотнях друкаваных крыніц. Даследчык, які бярэцца за раскрыццё хаця б асноўных момантаў гісторыі гэтага паселішча, павінен аднесціся да працы вельмі сур'ёзна і грунтоўна.у такім выпадку – поспех забяспечаны. На жаль праца В.Міхайлава не дае нават агульнага ўяўлення аб асноўных этапах гісторыі паселішча, яго асаблівасцях (а іх вельмі многа). Значнае месца ў тэксце займаюць фантазіі і разважанні, якія не адпавядаюць правілам жанру падобных выданняў. Кнігу не назавеш ні краязнаўчай, ні гістарычнай.

Аднак варта ўважліва пачытаць кнігу, бо чытач на яе старонках знойдзе шэраг малавядомых звестак, пазнаёміцца з малавядомымі па іншых выданнях дакументамі (у гэтым адна з галоўных вартасцей кнігі). Спіс гіста-рычных прац па Відзах зараз вельмі абмежаваны і кніга В.Міхайлава разам з папярэднімі працамі дазваляе прыўзняць заслоны над пакуль малавядомай мінуўшчынай гэтага цікавага паселішча.

Аляксандр Надсан

ДРУЯ

І ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ

ЦАРКВА НА БЕЛАРУСІ

Каштоўным укладам у гісторыю духоўнага жыцця нашай краіны стане сціплая, але вельмі змястоўная кніжка а.Аляксандра Надсана "Друя і грэка-каталіцкая царква на Беларусі. 1924-1938", якая пабачыла сёлета свет у лонданскім выдавецтве "Божым шляхам". Абапіраючыся на невядомыя раней рукапісныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф.Скарыны ў Лондане, аўтар разглядае рэлігійную і нацыянальна-асветніцкую дзейнасць Друйскага кляштара беларускіх айцоў марыянаў, іх спробы адрадзіць грэка-каталіцкую царкву ў міжваеннай Польшчы.

Думка заснаваць белорускі кляштар найперш зыходзіла, відаць, ад віленскага біскупа Матулевіча (Матулявічуса), постаці выдатнай, заслужанай для літоўскага і беларускага нацыянальнага адраджэння. Прынамсі ён у гутарцы з маладым беларускім святаром Андрэем Цікотам сказаў у 1919 г. словы, якія не згубілі свайго значэння і да нашага часу, варты таго, каб іх тут працытаваць. У кнізе Т.Гурскага "Адносіны біскупа Ежага Матулевіча да моўных спраў у Віленскай дыяцэзіі ў 1918-1925 гг.", выдадзенай у 1970 г. на польскай мове ў Рыме, прыведзены такі запіс касцельнага дастойніка: "Я сказаў [Цікоце.- рэд.], што беларускаму адраджэнскаму руху ня буду супраціўляцца, нават буду яго падтрымліваць, каб ён не зышоў на дрэнны шлях... Я дадаў, што нацыянальнасьці мяне не абыходзяць, але буду падтрымліваць іхнюю працу з наступных прычынаў: (1) Бачу, што беларускі народ цёмны, ня знае катэхізму, ня ўмее спавядацца. Найперш ён навучыцца гэтых рэчаў, калі яго будуць вучыць на роднай мове. (2) Беларусы адраджаюцца, ажываюць, узьнімаюцца, і калі сьвятары і каталіцкія сьвецкія людзі не накіруюць гэты рух на належны шлях, дык ён выкалеіцца і пойдзе супраць царквы. (3) Заданьнем Царквы ня ёсць навучаць моваў, але на зразумелай для людзей мове вучыць того, што патрэбнае для збаўленьня. (4) Беларусы, усьвядоміўшыся, будуць пасьля абвінавачваць Царкву, калі б тая старалася іх дэнацыяналізаваць. Нам павінны таксама ляжаць на сэрцы беларусы праваслаўныя і тыя, што былі раней уніятамі. Да іх мы можам толькі наблізіцца, абвяшчаючы Божае слова на беларускай мове. Вось гэта сьвятары беларусы павінны ўважаць за свой абавязак і пакліканьне» (с. 4).

Такое стаўленне біскупа Матулевіча да беларусаў выклікала супраціўленне польскага духавенства і чыноўніцтва. На усім працягу дзейнасці Друйскага кляштара і навіцыята айцоў марыянаў яны адчувалі ціск з боку афіцыйных улад і ў выніку вымушаны былі або перасяліцца ў Кітай – у Харбін, або прыняць усходні абрад. Перад чытачом кнігі айца Аляксандра Надсана паўстае цэлы шэраг такіх пакутнікаў за веру і народ: Фабіян Абрантовіч, Язэп Германовіч, Чэслаў Сіповіч, Андрэй Цікота, Тамаш Падзява... Аднаго з друйскіх законнікаў, сціплага і ціхага айца Фелікса Журню, мне ўдалося яшчэ заспець у Лондане ў час першай паездкі-камандзіроўкі 1982 г. за які месяц да яго смерці. Памятаецца яго журботнае пахаванне: здаецца, яго труна была ўстаноўлена над трунамі Чэслава Сіповіча і Язэпа Германовіча (пісьменніка Вінцука Адважнага) на могілках святога Панкраца...

*Адам Мальдзіс*

## Разгадай крыжаванку



Па гарызанталі: 1. Старажытная зброя. 2. Найчысцейшае возера Браслаўшчыны. 3. Драўляная пабудова. 4. Папярэчныя ніці тканіны. 5. Уладальнікі маёнтка Бяльмонты. 6. Псеўданім вядомага скульптара з Браслаўшчыны. 7. Двухстворчаты літы нагрудны крыж. 8. Старажытнае металічнае ўпрыгожанне ў выглядзе паўмесяца. 9. Гарадзішча жалезнага веку. 10. Варагі.

Па вертыкалі: 1. Неалітычная стаянка. 2. Камандзір корпуса ў часы вайны 1812 г., які праславіўся ў баях пад Браславам. 3. Звод законаў. 4. У старажытнасці ён жа гутнік. 5. Працяглы перыяд існуючых прыродных ільдоў. 6. Возера на Браслаўшчыне. 7. Назва карнай аперацыі на Браслаўшчыне ў 1943 г. 8. Верхняя адкрытая галерэя ў інтэр'ерах храмаў. 9. Возера на Браслаўшчыне. 10. Порыстая маса для выплаўкі жалеза ў старажытнасці. 11. Пабудова для адпачынку. 12. Парк на Браслаўшчыне. 13. Прылада працы старажытнага чалавека. 14. Язычніцкае бажаство. 15. Рукапісныя або друкаваныя збрашураваныя аркушы.

## Слухай і выбірай сваё !




« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага адзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»